ла ўзрастае. На дзень 1 ліпня гэтага году было зарэгістраваных безработных 720 тысяч, у тым-жа месяцы 1927 г. было 440 тыс., а ў 1928 г.— 610 тысяч.

## Барацьба паліцыі з бастуючымі работнікамі.

„Junajted Pres“ (Вена) прыносіць вестку з Новага Арлеану, аб барацьбе паміж паліцыяй і бастуючымі трамвайнымі работнікамі. Дзеля таго, што прынялі да працы ламіштрайкаў бастуючыя хацелі падпаліць трамвай. Паліцыі ўдалося разагнаць дэманстрантаў, але дайшло да бойкі, у часе якой забіта 2 работнікі і ранена 100. Думаюць, што губэрнатар абвесьціць у новым Арлеане вайсковы стан. Трамваі ходзяць акружаныя калючым дротам, а ў іх знаходзіцца паліцыя, узброеная машыновымі карабінамі.

## Абшар гадоўлі бульбы ў Савецкай Расеі.

У той час, як перад вайною агульны лік зямлі, занятай пад бульбаю, выносіў — 2,92 мільёны гэктараў, цяпер-жа афіцыяльная савецкая статыстыка падае абшар бульбы на 5,85 м. гэктар., г. зн. два разы столькі, сколькі перад вайной.

Яя бачым, земляробства „занепадае“.

## Новы завод.

У Саратаве (СССР) мае быць пабудаваны завод складаных малатарань. Штогодны выпуск заводу пры двухзьменнай рабоце вызначаны ў 6000 малатарань, коштам у 11 мільёнаў рублёў і запасных частак да іх на 330 т. руб.

Завод будзе абслугоўваць Паўночны Каўказ, Ніжнюю і Сярэднюю Волгу, Урал, Башкірскую, Татарскую рэспублікі і заходнюю палову Каўказу.

Арыентыровачны кошт пабудовы заводу вылічаны ў 5 мільёнаў рублёў.

# Весткі у тры радкі.

**1 асоба забітая, 2 цяжка раненыя** ў часе зьбіраньня гранат, якія засталіся яшчэ ад вайны ў Маладэчанскім павеце.

**У Менску** адбыліся курсы бязбожнікаў. Скончылі курсы 54 асобы, у гэтай лічба 48 мужчын і 6 кабет.

**Чыгунковая катастрофа** здарылася на лініі Загараны-Беч (Польшча). Перакулілася 20 таварных вагонаў і паравоз. Цяжка ранены машыніст і яго памочнік.

**У раёне Рагеніц** застрэлены паліцыянт. Забойцы забралі вінтоўку і амуніцыю.

**Улада** закрыла дзьве спартовыя ўкраінскія арганізацыі „Сокіл“ і „Луг“, з прычыны таго, што „не працавалі паводле статуту“.

**На практыкаваньнях** сапёраў каля Модліну выбухла міна, і забіла сержанта ды раніла чатырох салдатаў. Гэта толькі практыкаваньні...

**У канале сьв. Рыгора** каля Англіі на манэўрах наскочылі адна на адну 2 падводныя лодкі, адна з якіх пайшла на дно з 22 матросамі. Яшчэ да вайны топяць людзей, а што будзе ў часе вайны?

**Паўстаньні ў Аўганістане** яшчэ і дагэтуль ня сьціхаюць. Габібулах нібы ўжо аканчальна разьбівае Надір-Хана.

**У Турцыі** адарвалася хмара, дзякуючы чаму аграмадны дошч ліў 48 гадзін. 400 асоб затанула.

**80 камуністаў** арыштаваны ў ваколіцах Софіі (Баўгарыя), якія прыгатаўляліся да антываенных дэманстрацыяў у дзень 1-га жніўня.

**9-га жніўня** ў Коўне пачнецца працэс 5-ці камуністаў, якім закідаецца наладжаньне камуністычнай друкарні і распаўсюджаньне камуністычных праклямацыяў.

**У Румыніі** група ахвіцэраў хацела зрабіць пераварот і ўстанавіць дыктатуру, аднак перадчасна былі арыштаваны.

**Амэрыцы** туга, відаць, прыходзіцца, калі яна павысіла плату за увоз тавараў. Проці гэтага запратэставала 38 дзяржаў. У зьвязку з гэтым прэзыдэнт Гувэр склікае канфэрэнцыю.

— **3 пастухоў з в.** Ветаўк, Віленскага пав. забіў пярун.

— **6.000 людзей** бяз даху над галавой з прычыны пажару каля м. Сан-Францыска.

— 3.000 руб. сабралі гомельскія (БССР) работнікі на карысьць ахвярам сацыял-цэргібелеўшчыны.

— 4-га чэрвеня мінуў месяц галадоўкі румынскага камуніста М. Х. Паўкэра, які знаходзіцца ў Жылаўскай турме. У небяспечным стане яго перавязьлі ў вайсковы шпіталь.

— У Бэрне адбылася дэманстрацыя жанчын, якія дамагаліся выбарчага права. Яны падалі ураду патрабаваньне, на якім ёсьць 248.297 падпісоў.

# Мясцовая хроніка.

## Мітынг у м-ку Карэлічах.

Дня 12-га ліпня г. г. у м-ку Карэлічах з нагоду праваслаўнага сьвята адбыўся мітынг паслоў з Беларускага Сялянска-Работніцка Клюбу Гаўрыліка і Крынчыка, у часе якога на апошняга зроблены аружны напад. У сувязі з тым, што газэта наша была ужо набрана і што прабег гэтага мітынгу надзвычай цікавы, які шмат што сабой характарызуе — выдаём аб ім спэцыяльны дадатак да „Сьвету“.

## Страшная навука.

Газэты падалі вестку, што 5 чэрвеня з мэтай пазбаўленьня жыцьця прыняў труцізну Канапацкі б. рэдактар палёнофільскай часопісі „Беларускі Радны“ адзін з неапошніх дзеячоў г. зв. палёнофільскага кірунку, бо-ж быў віцэстаршынёй знанай „Беларускай Хаткі“ і Галоўнай Управы Т-ва „Прасьвета“, раней — камандуючым беларускім адрадам пры Польскай арміі, сябра Беларускай Вайсковай Камісіі, працаваўшы пад камандай усіх знаных і збанкрутаваных „дзеячоў“ — Аляксюка, Паўлюкевіча, Вярнікоўскага. Памёр, апынуўшыся ў цяжкай матар'яльнай сытуацыі пасьля ліквідацыі „Хаткі“ і часопісі „Беларускі Радны“, прасьцей— пад пагрозай голаду.

## Народ гоніць Вярнікоўскага.

Апошнімі часамі п. Вернікоўскі, прыймаючы пад увагу акружаючыя абставіны, пачаў у сваім „Грамадзяніне“ хоць ён і выходзіць у два месяцы раз, нейк „апазыцыйна“ адносіцца да ўраду, лічучы на эфэкт — а ну-ж удасца каго-небудзь прыцягнуць да сябе. Выдаўшы некалькі такіх нумароў „Грамадзяніна“, Вярнікоўскі паехаў каб падлічыць сваю працу. З гэтаю мэтаю ён пачаў наладжваць „мітынгі“.

„Дзеньнік Віленскі“ з 14-га ліпня г. г. дае зацемку аб гэтых „мітынгах“.

„Старшыня Акружное Рады беларускага Т-ва „Прасьвета“ п. Вярнікоўскі зарганізаваў у апошнія часы рад мітынгаў і кофэрэнцыяў сваіх прыхільнікаў у шэрагу мяйсцовасьцяў Маладэчанскага павету, аіменна ў Ушы, Аляхновічах, Радашкавічах, Дуброве, Івенцу.

Аднак на мітынгу аказаляся большасьць прыхільнікаў Грамады, якія не далі п. Вярнікоўскаму прыйсьці да слова“.

## Выбары ў Раду Касы Хворых.

Урад Касы Хворых м. Вільні пэдае да ведама ўсіх забясьпечаных і працадаўцаў, што ад дня 14-га ліпня г. г. сьпіскі выбашчыкаў у Раду Касы Хворых будуць абвешчаны ў Цэнтралі і Прыходных штодзенна ад гадз. 9-ай да 2-ой папалудні і ад 7-й да 9-й увечары да публічнага перагляду.

У часе ад 14-га да 23 ліпня кожны работнік мусіць у сваім уласным інтарэсе і ў інтарэсе ўсіх работнікаў спраўдзіць ці зьмешчаны ў сьпісе выбаршчыкаў.

## Камуністычныя адозвы на вуліцах м. Вільні.

У ноч з 14-га на 15-га г. м. нявыкрытыя асобы на абшары м. Вільні раскідалі камуністычныя адозвы, якія заклікалі да барацьбы з фашызмам. Адозвы сканфіскаваны. („Кур. Віл.“).

## Забойства камуніста.

„Кур. Віл.“ падае, што на адцінку В. Хутары, недалёка ад Стахаўшчыны патруль К. О. П. заўважыў 3 асобы, якія стараліся перайсьці ў Расею. Пасьля абстрэлу іх, двох уцяклі, пакідаючы раненага ў жывот таварыша. Раненым зьяўляецца камуністычны інструктар у гранічным пасе“.

## Пабольшаньне безрабоцьця.

Як вынікае з апошняй справаздачы, безрабоцьце на абшары м. Вільні ў прошлым тыдні раўнялася 3.342 безработных, у тым ліку мужчын 2.274 і жанчын 1.068. У параўнаньн, з папярэднім тыднем безработных павялічылася на 174 асобы.

## Фірма „Цэнтуры“ ў Гайнаўцы адмаўляе працу работнікам.

28 га чэрвеня г. г. фірма „Цэнтуры“ адмовіла працу ўсім работнікам у тартаку ў Гайнаўцы, падаючы, як прычыну тое, што ўрад спыніў прывоз клёцаў з лесу на тартак і што з прычыны браку сырца, фірма спыніць тартак.

Некалькі сотням работнікаў пагражае безрабоцьце.

Работнікі зьвярнуліся да Беларускага Сялянскі—Работніцкага Клюбу з просьбай парадзіць ім у цяжкой сытуацыі. У Гайнаўку езьдзіў пасол Я. Грэцкі. Інфармацыі падамо пасьля.

## Забастоўка ў Лідзкіх цагельнях.

„Работнік“ даносіць, што ў Лідзе тры цагельні і дзьве фабрыкі кахляў спынілі працу. Работнікі дамагаюцца большай платы. Паліцыя стараецца зламаць забастоўку.

---

Найцікаўней, што сама францускАя буржуазія, давёўшая сваей палітыкай „азброенага кулака“ свой уласны край да такога краху, вуснамі сваіх павадыроў азначае *рэзультаты гэтай палітыкі, як „гаспадарчы і палітычны абсурд“*... Так заявіў у сваей апошняй прамове ў Цурыху павадыр францускіх радыкалаў, угледжаны ўжо здаецца на галаву прышлага ўраду — Эрыо. Француская правіца рашуча ўхіляецца ад адказнасьці за ўсё, *што мусіць цяпер зрабіць Францыя пад няпераможным націскам Амэрыкі, Англіі і Нямеччыны.*

Француская буржуазная лявіца, *якая хоча ўзяць на сябе ўладу ня кажучы ўжо аб сацыялістах, рашуча становіцца на шлях філанямецкай палітыкі.*

Эрыо заявіў, што жаданьні Нямеччыны зусім справядлівыя, і Францыі трэба самахоць (!!!) зрабіць „пекны жэст“ у бок Нямеччыны...

Павадыр сацыялістаў Леон Блюм ідзе яшчэ далей і кажа, што „звольненьне Надрэніі павінна адбыцца безадкладна, бязумоўна і абсалютна незалежна ад... прыняцьця пляну Юнга Нямеччынай...

Але найбольш характэрнай азнакай гэтага зруху ў Францыі— проці Амэрыкі і ў бок Нямеччыны зьяўляецца раптам высунутыя *ўжо нават самім Брыянам (!) сэенсацыйны плян стварэньня „Злучаных Штатаў Эўропы“*, думка аб якіх, спароджаная ў Нямеччыне, дагэтуль разглядалася, асабліва ў Францыі, як „спроба *замаскаванай нямецкай гаспадарчай дыктатуры ў Эўропе*“!..

Цяпер пад пагрозай фінансавай дыктатуры Амэрыкі ў Эўропе, сама Францыя высовае плян „сьпярша гаспадарчага, а пасьля, можа, і палітычнага аб'еднаньня“ Эўропы, падставай якога *сам Брыян кладзе „саюз Францыі з Нямеччынай“*!

Ну, — ціж — сапраўды не цікаўныя рэчы творацца цяпер у Францыі — у тэй запраўднай „гацачцы“, якую перажывае там прыціснутая да муру сваімі-ж учарашнімі „прыяцелямі-саюзьнікамі“ буржуазія, якая цяпер, — ратуючыся ад апошніх кідаецца ў абняцьце свайго найвялікшага ворага, Нямеччыны?!!

—о—

Такім чынам — на нашых вочах распачынаецца апошні акт *ліквідацыі францускай гегомоніі ў Эўропе* — у варунках, пагражаючых або палітычным або фінансавым банкруцтвам Францыі...

У зьвязку з гэтым распачынаецца, можа, нейкі „новы пэрыяд“, у якім на эурапэйскім кантынэнце запануе хіба гаспадарчая, а потым і палітычная гэгэмонія нямеччыны. Бо-ж трэба думаць, што Англія будзе лішне захоплена сваім суперніцтвам з Амэрыкай на морах, у калёніях і паўкалёніях...

А за ўсімі гэтымі падзеямі разварачваецца яшчэ шырэйшы абраз. — Палітычная і эканамічная барацьба, як ведама — сутнасьць буржуазіі. Дык перад намі распачынаецца, можа, ужо новы, але прадбачаны ўжо дасьледчыкамі разьвіцьця сусьветнага капіталізму — у яго навейшай форме *імпэрыялізму* — пэрыяд, калі барацьба гэта будзе адбывацца ужо — не між паасобнымі імпэрыялістычнымі дзяржавамі, нават не між вялізарнымі, але часовымі — ad hoc — коаліцыямі такіх дзяржаваў (як у часе апошняй вайны), але *паміж сталымі вялізарнымі аб'яднаньнямі дзяржаваў...*

—о—

У канцы ўкажам, што ўсе высьветленыя вышэй падзеі бязумоўна і вельмі грунтоўна адаб'юцца і на Польшчы, а значыць, і на нашым краі.

Нямецкая прэса, як і нямецкія дзяржаўнікі, зусім выразна кажуць, што *пасьля свайго палітычнага вызваленьня Нямеччына рубам паставіць справу перагляду сваіх усходніх граніцаў.* Як ведама і *першай заявай* новага англійскага прэм'ера і яго таварышаў было напомненьне, што, Партыя Працы ніколі ня прызнавала справядлівай сучасныя ўсходнія граніцы Нямеччыны...

А ў якіх розных варунках будзе адбывацца гэты „эвэнтуальны“ перагляд польска-нямецкай граніцы — ў параўнаньні з тымі, у якіх яна была праведзена, аб гэтым выразна кажа усё, што вылажана вышэй...

*М.*

---

*Сяляне і работнікі!*

*прысылайце падпіску на сваю газэту: „СЬВЕТ“.*

